

Цікава праводзіць заняткі з вучнямі чацвёртага класа Кухціцкай пачатковай школы Уздзенскага раёна настаўніца Зінаіда Аляксееўна Барысевіч. Творча адносіцца яна да выканання любімай справы, заўсёды знойдзе падыход да кожнага з 14 сваіх вучняў. Асабліва падабаюцца ім заняткі па інтарэсах. Часта праходзяць цікавыя сустрэчы з перадавікамі і спецыялістамі мясцовага калгаса "Усход". Дзеці з захапленнем расказваюць аб прафесіях сваіх бацькоў, разам з настаўніцай пішуць летапіс роднай вёскі.

НА ЗДЫМКАХ: З.А.Барысевіч праводзіць заняткі па тэме "Мая маленькая радзіма — вёска Кухцічы"; чацвёртакласнікі рыхтуюцца да тэматычнага ўрока, прысвечанага роднай вёсцы.

**Тэкст і фота**
**Міхаіла БУЛАТА,**
**супрацоўніка Уздзенскай райгазеты "Чырвоная зорка".**



Дыялогі аб выхаванні

# Узаеміны, якія ўзбагачаюць

*Усё часцей і часцей мы задумваемся пра сутнасць выхавання. І зразумела адно: уводзенне ў некаторых навучальных установах (на жаль, толькі ў некаторых) пасады вызваленага класнага кіраўніка, ці выхавальніка, ці куратара сёння — вялікая карысць. Па сутнасці, дзейнасць класнага кіраўніка-выхавальніка па падтрымцы дзіцяці і аказанні дапамогі ў вырашэнні яго праблем — інавацыя ў педагогіцы, што з'явілася як патрэбнасць часу.*

*Толькі вось думаю: вызвалены класны кіраўнік-выхавальнік вызвалены ад чаго? Зразумела: ад выкладання прадмета. Вось ужо 10 гадоў (менавіта столькі споўнілася нашаму ліцэю) назіраю за працай маіх калег, вызваленых выхавальнікаў, і раблю выснову: выконваючы мноства разнастайных функцый, яны вызвалены толькі ад аднаго — ад "раскошы" жыць з выключанай душой.*

*Нашаму ліцэю пашчасціла: кожны выхавальнік працуе толькі з адным класам. Яго работа пачынаецца ў другой палове дня, калі ўрокі ўжо амаль заканчваюцца. Перад тым, як убачыцца з дзецьмі, ёсць яшчэ крыху часу, каб зайсці да мяне ў кабінет (ці няма чаго-небудзь новага, тэрміновага, непрадбачанага?), сустрэцца з настаўнікамі, прагледзець класны журнал, зазірнуць у гардэроб, сталовую, напоўніць сябе (хаця б крышачку!) добрым настроем, падзяліцца ідэямі падчас такога кароткага "зацішша" ў настаўніцкай...*

*Вось ужо дзесяць гадоў у штодзённым жыцці ліцэя існуе неабходны, як мы лічым, рэжымны момант, так званая "пяціхвілінка" — сустрэча выхавальніка з усім класам. Чым напоўніць гэтыя 5 хвілін, вырашае выхавальнік, арыентуючыся на патрэбнасці і інтарэсы вучняў. "Добры дзень!" — і адразу адчуваецца настрой класа. У кагосьці вочы накіраваны ў стол ці акно, хтосьці ўжо вельмі ўзрушаны, нехта паглядвае на гадзіннік, хтосьці глядзіць табе прама ў вочы: "Пагаварыце са мной!"...*

**Людміла Віктараўна Яжэнка, выхавальнік эканоміка-прававога класа:**

— Затрымліваць кожны дзень пасля ўрокаў дзяцей, якія адпрацавалі па 7 — 8 вучэбных гадзін і спяшаюцца на факультатывы, спецкурсы ці ў бібліятэку, — зусім няпроста. Але мы ўжо не можам абыходзіцца без гэтых пяці-дзесяці хвілін узаемінаў. Ніякіх натацый і павучанняў! Калі трэба пагутарыць з тымі, хто спазніўся на ўрок, несвоечасова здаў сачыненне, няякасна прыбраў у класе і г.д. — толькі індывідуальна. Пяць хвілін узаемінаў — гэта не толькі высвятленне таго, як прайшоў дзень, гэта і кароткая інфармацыя аб тым, што адбылося ў краіне, гэта магчымасць прыгадаць знамянальныя даты, гэта бліц-апытанні і... У нашым класе выкарыстоўваем такія гутаркі, як "Гісторыя аднаго шэдэўра", "Школа этыкету", "Пазнай сябе", "Я вачамі іншых", "Што? Дзе? Калі?" і іншыя. Вельмі зручна ў гэты час праводзіць мініанкеты, выкарыстоўваць методыку недапісаных сказаў, праводзіць дыягностыку вучэбнай матывацыі, узроўню творчай актыўнасці вучняў, маральных прыярытэтаў і г.д. Канешне, работа з класам не абмяжоўваецца гэтым, але штодзённыя, ненадакучлівыя, шчырыя ўзаеміны, няхай нават у такіх малых дозах, даюць свае вынікі.

Пачынаючы з 70-х гадоў, вучоныя спрабуюць ажыццявіць пераход ад механістычнай арыентацыі ў вывучэнні выхаваўчых з'яў да разгляду іх як складаных сістэм, якія самаарганізуюцца і самаразвіваюцца. У апошняе дзесяцігоддзе вучоныя-педагогі накіравалі намаганні на распрацоўку тэорыі і тэхналогіі мадэліравання выхаваўчых сістэм.

Педагогі нашага ліцэя прыйшлі да аб'ектыўнай неабходнасці мадэліравання выхаваўчай сістэмы, бо ўсе гэтыя гады наша навучальная ўстанова развівалася ў адпаведнасці з уласнай задумкай і ўлікам інтарэсаў і патрэбнасцяў членаў ліцэйскага калектыву — навучэнцаў, настаўнікаў і бацькоў. Сёння ідзе работа па мадэліраванні выхаваўчых сістэм класаў.

**Лідзія Дзмітрыеўна Саенка, выхавальнік фізіка-матэматычнага класа:**

— Асноўнымі напрамкамі работы ў маім класе з'яўляюцца турызм і краязнаўства. Другі год мы з дзецьмі працуем па праграме "Помнікі маёй Айчыны" і знаходзім гэтую справу даволі цікавай. Кожны месяц мы адпраўляемся ў паход ці паездку. Падчас падрыхтоўкі да іх дзецям даводзіцца працаваць і разумова, і фізічна (падрыхтоўка амуніцыі, закупка і ўпакоўка прадуктаў), знаёміцца з матэрыяламі аб тых мясцінах, якія мы збіраемся наведаць...

У паходзе дзеці вучацца жыць у прыродзе, беражліва ставіцца да ўсяго навакольнага і ўважліва, клапатліва — адзін да аднаго. Яны знаёмяцца з новымі мясцінамі, атрымліваюць новыя звесткі па гісторыі, літаратуры, біялогіі, вучацца бачыць, цаніць і берагчы прыгажосць роднага краю, разумець, як важна быць чалавекам патрэбным і надзейным. Паход — гэта і аздараўленне, і збіранне ўражанняў, і многія адкрыцці. Адкрыццё сябе. Адкрыццё сяброў.

Абавязковай умовай такой работы з'яўляецца падвядзенне вынікаў, афармленне матэрыялаў паходу ці экскурсіі: дзеці вучацца аналізаваць, рабіць высновы, ацэньваць сябе ў канкрэтнай сітуацыі і лакавічна перадаваць свае думкі.

Гэтая работа стане яшчэ больш эфектыўнай, калі будзе праводзіцца ў цеснай сувязі з праграмамі вучэбных прадметаў. Гэта могуць быць гісторыя, літаратура, біялогія, геаграфія, сусветная мастацкая культура, фізкультура... Мы нават практыку па фізіцы праходзім у паходзе... Канешне, гэта даволі працаёмкая справа, якая патрабуе і добрай фізічнай падрыхтоўкі, і матэрыяльнага забеспячэння, і, галоўнае, вялікага энтузіязму тых, хто ёю вырашыў займацца.

Нядаўна вучні вярнуліся з чарговага паходу па мясцінах баявой славы і расказалі пра тое, што на ўзлеску яны знайшлі закінутую магілу. Нечыя добрыя рукі вельмі даўно ўстанавілі на магіле сціплы слупок з дошчачкай, на якой дзеці змаглі прачытаць: "Тут пахаваны невядомы салдат".

"Ну вось, — гаворыць Лідзія Дзмітрыеўна, — у нас з'явіўся новы аб'ект клопату..."

Вялікую дапамогу аказваюць нашы выхавальнікі настаўнікам у арганізацыі профільнай практыкі.

**Таццяна Анатольеўна Падабед, выхавальнік класа замежных моў:**

— Супрацоўніцтва як педагагічны феномен магчыма ажыццявіць на аснове поўнага даверу і зацікаўленасці настаўніка і вучня. Нездарма асноўнай задачай класнага кіраўніка з'яўляецца сацыяльна-маральнае выхаванне вучняў і іх з'яднанасць у дружны калектыў. Працуючы на працягу некалькіх гадоў з пастаянным складам вучняў, педагог мае магчымасць спалучаць намаганні, накіраваныя на выхаванне калектыву класа, з удумлівым індывідуальным падыходам да кожнага дзіцяці. Класны кіраўнік больш, чым іншыя настаўнікі, праводзіць часу з вучнямі. Яго ўзаеміны з імі не спыняюцца званком. Ён і пасля ўрокаў выступае ў ролі арганізатара жыцця і дзейнасці класнага калектыву.

Спецыфіка абласнога ліцэя прадугледжвае пражыванне многіх дзяцей з раёнаў Магілёўскай вобласці ў інтэрнаце, працяглы адрыў ад сям'і і бацькоў, змяненне стылю ўзаемінаў у асяроддзі педагогаў і равеснікаў. Большую частку свайго працоўнага дня нашы выхавальнікі праводзяць менавіта з гэтымі дзецьмі. Яны арганізуюць падрыхтоўку дамашніх заданняў да наступнага вучэбнага дня, прысутнічаюць у сталовай падчас абеду і вячэры, сочаць, каб іх выхаванцы своечасова ляглі спаць... Вячэрняя змена для выхавальнікаў — неацэнная магчымасць індывідуальнай работы з дзецьмі. Гэта час для размоў "па душах", для гутарак за кубачкам чаю, час для вершаў, для слёз, для прагулак перад сном. Гэтым самым стараемся наблізіць атмасферу інтэрната да дамашняй. Праўда, бытавыя ўмовы інтэрната прымушаюць жадаць лепшага, але... хто ведае, што ў гэтым "дамашнім" стаіць на першым месцы — матэрыяльнае ці духоўнае?

Праблема ўзаемінаў настаўніка і вучня сёння вельмі актуальная. У аснове ж выхавання ляжаць узаеміны малодшага са старэйшым. Апошнім часам назіраецца дэфіцыт узаемінаў, што пацвярджаюць вынікі даследаванняў. Больш за тое, адсутнасць нармальных узаемінаў выхаванцаў з педагогамі і бацькамі вядзе да такіх негатыўных з'яў, як адзінота, замкнёнасць, уцягненне дзяцей ў нефармальныя аб'яднанні з сумніўнай рэпутацыяй і інш.

Асноўнымі шляхамі стварэння атмасферы даверу і цікавасці ў класным калектыве з'яўляюцца: супрацоўніцтва класнага кіраўніка і калектыву на аснове раўнапраўя, уменне педагога-выхавальніка ўлічваць узроставыя і індывідуальныя асаблівасці кожнага дзіцяці, агульныя справы і традыцыі ў калектыве, дзе кожнае дзіця можа праявіць сябе як асоба; пастаяннае стварэнне "сітуацыі поспеху", заахвочванне дзяцей пры кожным станоўчым пачынанні; уменне бачыць у кожным дзіцяці асобу з усімі яе станоўчымі і адмоўнымі бакамі.

З другога боку, немалаважнае значэнне ў стварэнні атмасферы даверу і зацікаўленасці ў калектыве мае асоба педагога. Выхавальнік — гэта прафесія ці прызванне? Гавораць, гэта лад жыцця.

...Стаю каля акна. Дзіўна неяк пакідаюць ліцэй чацвёра хлопчыкаў — спіной наперад, гледзячы на ліцэй. Рукамі махаюць: "Да пабачэння!" Каму гэта? У кабінеце па суседству стаіць, як і я, каля акна наша нядаўняя выпускніца, а сёння — вось гэты самы вызвалены класны кіраўнік... Гэта з ёй развітваюцца хлопчыкі. Трыццаць метраў, пяцьдзесят... Ужо невыразныя твары дзяцей, а рукі — "Да заўтра! Да сустрэчы!"

А я гляджу і радуюся: вось тыя ўзаеміны, якія ўзбагачаюць і выхавальніка, і выхаванца.

"Да заўтра!" Што прынясе нам Заўтра?

**Надзея САВІЧ,**
**намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Магілёўскага абласнога ліцэя пры МДУ імя А.Куляшова.**

На шляхах рэформы

Ігар СТАСЕВІЧ:

# "Сёння мы можам выбіраць і канструяваць педагагічны працэс любой мадэлі"

*Пра сённяшні дзень адукацыйнай сістэмы Баранавічаў наш карэспандэнт гутарыць з начальнікам упраўлення адукацыі Баранавіцкага гарвыканкама Ігарам СТАСЕВІЧАМ.*

**— Ігар Іванавіч, я ведаю, што аддзел адукацыі Баранавічаў у канцы 2000 года быў пераўтвораны і цяпер называецца упраўленнем адукацыі. Якія змены ў сувязі з гэтым адбыліся?**

— Гэта пераўтварэнне было зроблена з мэтай больш эфектыўнага кіравання сістэмай адукацыі ў горадзе, яно дае магчымасць забяспечваць больш высокі ўзровень інфармацыйнай і аналітычнай дзейнасці нашай установы. Усе абавязкі работнікаў упраўлення дакладна размеркаваны і скаардынаваны, мы шмат працуем над удасканаленнем стылю і метадаў кіравання, сярод якіх пераважнымі з'яўляюцца арганізацыйна-педагагічныя метады. Аператыўныя штотыднёвыя апаратныя нарады забяспечваюць каардынацыю і мэтанакіраванасць адміністрацыйных дзеянняў.

**— Як сёння развіваецца адукацыйная сістэма горада?**

— У апошняе дзесяцігоддзе ў нашым грамадстве адбываюцца дынамічныя і глыбокія змены, якія характарызуюцца вялікай колькасцю новаўвядзенняў ва ўсіх сферах навукі, вытворчасці, сацыяльнага жыцця, у тым ліку і ў сістэме адукацыі. І нам прыемна адзначыць, што гарвыканкам, упраўленне адукацыі, педагагічныя калектывы горада прадбачылі гэтыя працэсы і, пачынаючы ўжо з 1995 года, пачалі працаваць над развіццём адукацыйнай сістэмы Баранавічаў праз інавацыйныя працэсы.

Практыка інавацый у адукацыі горада сёння ў роўнай ступені арыентавана як на стварэнне інавацыйных навучальных устаноў, так і на ўкараненне разнастайных адукацыйных праграм і методык.

У нашым горадзе адзін ліцэй і пяць гімназій, і кожная з гэтых навучальных устаноў мае свой твар, працуе па сваёй індывідуальнай траекторыі развіцця. Цэлы шэраг накірункаў развіцця адукацыі, якія прадугледжаны рэформай школы, у Баранавічах ужо апрабіраваны і даў добрыя вынікі.

Больш пяці гадоў педагагічны калектыў гімназіі № 2 рэалізуе праграму развіваючага навучання. Гэта якраз той інавацыйны накірунак, які прадугледжаны рэформай школы. У кантэксце гэтай праблемы з 1992 года настаўнікі пачатковых класаў сярэдняй школы № 21 вялі эксперымент па беспрадметным навучанні дзяцей. Гімназія № 1 у ліку першых у рэспубліцы стала ўдзельнічаць у рэспубліканскім эксперыменце па тэхналогіі "Крок за крокам".

З 1997 года гімназія № 3 працуе па апрабацыі педагагічных тэхналогій Дальтон.

Хацелася б сказаць некалькі слоў і аб астатніх эксперыментальных пляцоўках у горадзе. Нашы педагагічныя калектывы працуюць і па тэхналогіі развіваючага навучання па Эльконіну-Давыдаву і Занкову (школа № 13), і па тэхналогіі "Арыенцір" (школы №№ 13, 17, 21), і па тэхналогіі "Здаровы лад жыцця" (гімназіі №№ 1, 4, 5). Школа № 18 уключана ў рэспубліканскі эксперымент па апрабацыі ўдасканаленай сістэмы ацэнкі ведаў, уменняў і навыкаў вучняў 5 — 8, 10 класаў. Упраўленне адукацыі заключыла дагавор аб навукова-практычным супрацоўніцтве з Акадэміяй паслядыпломнай адукацыі. У межах супрацоўніцтва пачата распрацоўка сістэмы выхаваўчай работы ў горадзе.

**— Вы сказалі, што шэраг накірункаў развіцця адукацыі, прадугледжаных рэформай школы, даў ужо добрыя вынікі...**

— Аналіз дзейнасці навучальных устаноў горада паказаў, што яны ў цэлым паспяхова выконваюць сацыяльны заказ грамадства па забеспячэнні бесперапыннага навучання: 85,4 працэнта выпускнікоў 11 класаў у мінулым навучальным годзе прадоўжылі сваё навучанне. Гэта сведчыць, што колькасць незапатрабаваных выпускнікоў школ у горадзе памяншаецца. Значна вырасла колькасць вучняў, якія атрымліваюць адукацыю на павышаным узроўні. Усімі відамі паглыбленага навучання зараз ахоплена 12379 вучняў (гэта 45,4 працэнта ад іх агульнай колькасці), і гэта станоўча адбіваецца на канкурэнтаздольнасці нашых выпускнікоў пры паступленні ў ВНУ. Так, на базе школ №№ 9, 10, 14, гімназіі № 4 працавалі ліцэйскія класы, якія цесна супрацоўнічалі з ВНУ.

У мінулым годзе ў нашым горадзе прайшла абласная алімпіяда па замежных мовах і рэспубліканская алімпіяда па гісторыі і геаграфіі, дзе нашы вучні атрымалі дыпломы І ступені.

У снежні 2000 года на базе гімназіі № 5 прайшла гарадская канферэнцыя юных навукоўцаў. Навучэнцы ліцэя прынялі ўдзел у Х Сахараўскіх юбілейных чытаннях пад кіраўніцтвам акадэміка Ж.І.Алфёрава ў Санкт-Пецярбурзе, дзе адзін з іх (вучань 10 класа) стаў лаўрэатам па фізіцы. Нашы вучні ўдзельнічалі ў Х Маскоўскай адкрытай канферэнцыі па матэматыцы, фізіцы, інфарматыцы і экалогіі і вярнуліся дадому з двума дыпломамі ІІ ступені. Пералік дыпломаў, якія прывозяць нашы вучні, можна яшчэ доўжыць. Усё гэта паказвае, што ў горадзе вядзецца значная работа па далучэнні дзяцей да навуковай дзейнасці, забеспячэнні павышанага ўзроўню навучання.

Але наўрад ці правільна бачыць у ажыццяўленні інавацыйных падыходаў адзін толькі пазітыўны бок. Не сакрэт, што ў многіх выпадках мы сутыкаемся і з фармальнымі, павярхоўнымі зменамі, якія на самай справе амаль нічога не мяняюць і не забяспечваюць новай якасці адукацыі. Свабода творчасці ў сферы зместу адукацыі ў некаторых выпадках вядзе да перагрузкі вучэбных планаў. Сёння вучэбны план утрымлівае ў сабе 19 — 20 прадметаў, да таго ж дадаткова дабаўляюцца гадзіны згодна з прафілізацыяй. Лічу, што ў яго трэба ўносіць толькі тыя прадметы і выкарыстоўваць толькі тыя педагагічныя тэхналогіі, якія забяспечваюць гарантаваны мадэльны ўзровень. Кожная навучальная ўстанова распрацоўвае свой вучэбны план. Дзяржаўны кампанент забяспечвае адзінства агульнаадукацыйнага поля, але на ўзроўні 8 — 9, 10 — 11 класаў неабходна стварэнне індывідуальных праграм, якія будуць накіраванымі на асобаснае развіццё, самавызначэнне вучняў, і ў гэтым нам неабходна дапамога Міністэрства адукацыі.

Хочацца закрануць і яшчэ адну праблему, якая пакуль не вырашана ў нашым горадзе. Практыка паказвае, што для 40 працэнтаў вучняў, якія вучацца на "3" і "4", ёсць асобныя прадметы, якія ім альбо не пад сілу, альбо ў дзяцей няма матываванай зацікаўленасці вывучаць іх. З гэтага вынікае, што на аснове вывучэння інтарэсаў, здольнасцей, тыпу мыслення і ўспрымання і трэба шукаць новыя падыходы, ствараць вучэбныя планы і праграмы.

**— Што вы скажаце аб сістэме выхаваўчай работы ў горадзе? Наколькі вам дапамагае супрацоўніцтва з Акадэміяй паслядыпломнай адукацыі ў гэтым накірунку?**

— Апошнім часам нашы адносіны да выхаваўчай работы сталі карэнным чынам мяняцца. Многія педагагічныя калектывы прадпрынялі спробу выкарыстання сістэмнага падыходу ў кіраванні выхаваўчым працэсам — і менавіта ў гэтым супрацоўніцтва з АПА аказваецца для нас вельмі плённым. Пад кіраўніцтвам навукоўцаў у нашых навучальных установах ствараюцца канцэптуальныя мадэлі выхаваўчай работы, арыентаваныя на асобаснае выхаванне, развіццё індывідуальнасці кожнага вучня і ўменне выявіць сваю асобу. Частка дырэктараў і намеснікаў дырэктараў прайшла аўтарскія курсы доктара педагагічных навук, прафесара П.І.Трацякова ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, што таксама аказалася для нас вельмі карысным.

У лістападзе 2000 года ў Баранавічах адкрыўся першы ў Брэсцкай вобласці дзіцячы сацыяльны прытулак. У горадзе праводзіцца прафілактычная работа па папярэджанні безнагляднасці непаўналетніх, пры ўпраўленні адукацыі была створана група спецыялістаў па вывучэнні прычын росту злачыннасці і правапарушэнняў у асобных школах, працуюць саветы прафілактыкі...

Зараз мы перажываем перыяд станаўлення новай нацыянальнай сістэмы адукацыі, які суправаджаецца значнымі зменамі ў педагагічнай тэорыі і практыцы вучэбна-выхаваўчага працэсу. Абвешчаны сёння прынцып варыянтнасці дае нам магчымасць выбіраць і канструяваць педагагічны працэс любой мадэлі. І для таго каб выбар быў удалым, трэба добра арыентавацца ў шырокім спектры сучасных інавацыйных тэхналогій, ідэй, накірункаў і выкарыстоўваць тыя, якія ў найбольшай ступені падыходзяць менавіта нам, з улікам нашых культурных, рэгіянальных і іншых асаблівасцей. Над вырашэннем гэтай галоўнай праблемы зараз мы і працуем.

**Гутарыла**
**Святлана СУБОЦІНА.**



Кансультацыя спецыяліста

# Аб новай рэдакцыі Палажэння аб атэстацыі педагагічных работнікаў сістэмы адукацыі

*25 студзеня 2001 года ўступіла ў сілу новая рэдакцыя (са змяненнямі і дапаўненнямі) Палажэння аб атэстацыі педагагічных работнікаў сістэмы адукацыі, якая значна адрозніваецца ад папярэдняй.*

У новай рэдакцыі, нарэшце, замацаваны палажэнні, якіх так доўга і ўпарта дабіваўся галіновы прафсаюз. Унесеныя змяненні і дапаўненні пашыраюць правы тых, хто атэстуецца, і, канешне, гуманізуюць атэстацыйны працэс.

Дык што ж новага? Па-першае, цяпер прэтэндэнты на другую і першую кваліфікацыйныя катэгорыі могуць падаваць заявы на атэстацыю не да 10 кастрычніка, як гэта было ўстаноўлена раней, а ў любы іншы, зручны для іх час, але не пазней як за 3 месяцы да заканчэння навучальнага года. Менавіта такі граніцы тэрмін — 3 месяцы з дня падачы заявы, — адводзіцца на вывучэнне дзейнасці прэтэндэнта і яго атэстацыю.

Гэта дасць магчымасць атэстацыйнай камісіі пазбавіцца ад кампанейшчыны ў рабоце, разглядаць заявы па меры іх паступлення на працягу ўсяго навучальнага года. А педагогу дае магчымасць уключацца ў атэстацыйны працэс адразу ж пасля з'яўлення неабходных умоў для атрымання наступнай катэгорыі.

Дарэчы, права на атэстацыю і прысваенне кваліфікацыйнай катэгорыі атрымалі педагагічныя работнікі, якія маюць адукацыю ў аб'ёме педагагічных класаў. (Такія ёсць у дзіцячых дашкольных установах). Раней яны гэтага права былі пазбаўлены.

Па-другое, пашырана кола асоб, якія атрымалі права прэтэндаваць на вышэйшую катэгорыю без здачы кваліфікацыйнага экзамену.

Цяпер, акрамя тых, хто ўзнагароджаны дзяржаўнымі ўзнагародамі, мае вучоныя ступені, акрамя пераможцаў і лаўрэатаў конкурсаў прафесійнага майстэрства, такое права атрымалі аўтары падручнікаў і навучальна-метадычных комплексаў, а таксама, што самае галоўнае, — педагагічныя работнікі, якія маюць стаж работы ў 1-й катэгорыі 10 і больш гадоў. А гэта значыць, што ўжо ў 2001 годзе нашы педагогі, якія атрымалі 1-ю катэгорыю пры пазачарговай атэстацыі ў 1991 годзе, змогуць прэтэндаваць на вышэйшую без здачы кваліфікацыйнага экзамену.

Па-трэцяе, значна пашырана кола педагагічных работнікаў, якія незалежна ад стажу работы на пасадзе, па якой атэстуюцца, могуць прэтэндаваць адразу на прысваенне той жа кваліфікацыйнай катэгорыі, якую не маюць па другой педагагічнай пасадзе. Гэта датычыцца кіраўнікоў гурткоў, педагогаў-псіхолагаў, педагогаў-арганізатараў, сацыяльных педагогаў, выхавацеляў, выхавацеляў дашкольных і агульнаадукацыйных устаноў, метадыстаў і іншых катэгорый.

Напрыклад, раней, калі выхавацель дзіцячага садка, які мае катэгорыю, пераходзіў выхавацелем у школу ці метадыстам у метадычны кабінет, ён павінен быў праходзіць атэстацыю па новай пасадзе, пачынаючы з нуля. Цяпер ён атрымаў права падчас атэстацыі на новай пасадзе адразу ж прэтэндаваць на тую ж катэгорыю, якую мае па пасадзе "выхавацель", у тым ліку на вышэйшую — без здачы кваліфікацыйнага экзамену.

Аналагічная сітуацыя з педагогамі-кіраўнікамі гурткоў, якія ўжо маюць катэгорыі, як настаўнікі, выкладчыкі, выхавацелі, музычныя кіраўнікі, трэнеры-выкладчыкі, майстры вытворчага навучання, культарганізатары, метадысты, акампаніятары. Яны таксама пры атэставанні па пасадзе "кіраўнік гуртка" могуць адразу прэтэндаваць на тую ж катэгорыю, якую ўжо маюць па пералічаных пасадах.

У выключных выпадках, якія не прадугледжаны Палажэннем (а прадугледзець усё наперад немагчыма), рашэнне аб допуску да атэстацыі будзе прымаць Міністэрства адукацыі па хадайніцтву адміністрацыі і атэстацыйнай камісіі ўстановы навучання.

Па-чацвёртае, у новай рэдакцыі Палажэння дакладна прапісана працэдура вырашэння спрэчак, што могуць узнікнуць пры атэстацыі, — канчатковае рашэнне ў месячны тэрмін будзе прымаць атэстацыйная камісія вышэйшага органа кіравання.

Раней разгляд некаторых скаргаў працягваўся месяцамі, і ніхто не меў права прыняць канчатковае рашэнне. Цяпер гэты недахоп ліквідаваны.

Ёсць і іншыя змяненні, якія пашыраюць правы педагагічных работнікаў і канкрэтызуюць працэдуру атэстацыі. Таму сёння важна, каб атэстацыйныя камісіі ўсіх узроўняў уважліва вывучылі гэты дакумент і кіраваліся ім ужо ў гэтым навучальным годзе, бо Палажэнне ўступіла ў сілу пасля апублікавання яго ў Нацыянальным рэестры прававых актаў Рэспублікі Беларусь (№8 ад 25 студзеня 2001 года, рэгістрацыйны №8/4526).

**Валянціна ГНЯЗДЗІЛАВА,**
**загадчыца аддзела абароны эканамічных і прафесійных інтарэсаў ЦК прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі.**

